ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 147 (5329)
Субота, 22 снежня 2001 года
Кошт у розніцу — 84 руб.

Падзея

## 36 будучых педагогаў атрымалі прэзідэнцкія прэміі



***19 снежня ў Мінскім дзяржаўным педагагічным каледжы №2 адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне прэміямі Савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь навучэнцаў педагагічных каледжаў і вучылішчаў - пераможцаў рэспубліканскіх прадметных алімпіяд і алімпіяд прафесійнага майстэрства.***

Ініцыятарам дадзенай цырымоніі стаў фонд, а арганізатарскія клопаты ўзяў на сябе калектыў педагогаў і навучэнцаў другога педагагічнага каледжа сталіцы. Свята адбылося ў атмасферы цеплыні і хатняй утульнасці за кубкам гарбаты з салодкімі пачастункамі. Для многіх лаўрэатаў запрашэнне на гэтую ўрачыстасць стала, па сутнасці, навагоднім сюрпрызам, бо алімпіяды праходзілі ў мінулым навучальным годзе. Але тым не менш вельмі прыемна было глядзець у вочы пераможцаў, бачачы здзіўленне і радасць. Лаўрэаты былі з усёй Беларусі, хтосьці з іх яшчэ з'яўляецца навучэнцам каледжа, а хтосьці стаў ужо студэнтам.

Першую прэмію памерам 100 тысяч рублёў атрымалі Вольга Габец - навучэнка Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа, Мікалай Грыб - навучэнец Нясвіжскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа, Наталля Дылевіч - навучэнка Полацкага дзяржаўнага педагагічнага каледжа імя Ф.Скарыны, Арцём Люлько - навучэнец Аршанскага педагагічнага каледжа, Анатоль Пашковіч - навучэнец Полацкага дзяржаўнага педагагічнага каледжа імя Ф.Скарыны і Дзмітрый Скіціцкі - навучэнец Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа. Лаўрэатамі другой прэміі памерам 80 тысяч рублёў сталі 13 чалавек і трэцяй, памерам 70 тысяч рублёў - 17 чалавек. Грашовыя ўзнагароды лепшыя юнакі і дзяўчаты атрымалі з рук сакратара Савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў Ніны Уладзіміраўны Пташнік.

Што датычыцца дзейнасці самога фонду, дык ён быў заснаваны ў 1996 годзе загадам Прэзідэнта нашай краіны А.Г.Лукашэнка. Праграма фонду прадугледжвае выдачу прэміі пераможцам міжнародных алімпіяд і конкурсаў сярод школьнікаў, пераможцам рэспубліканскіх конкурсаў і алімпіяд сярод студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, навучэнцаў сярэдніх і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, да таго ж фонд падтрымлівае навучэнцаў і студэнтаў, якія дасягнулі вялікага поспеху ў вучобе, выкладчыкаў за асабісты ўклад у працы з адоранымі дзецьмі, дапамагае фінансава творчым студэнцкім і вучнёўскім аб'яднаням. Акрамя вышэй пералічанага фонд усталяваў прэзідэнцкія стыпенцыі студэнтам ВНУ краіны (усяго іх дзевяноста) за дасягненні асаблівых поспехаў у вучобе і навуковай дзейнасці. У выніку штогод каля 1500 чалавек атрымліваюць узнагароды прэзідэнцкага фонду. Дарэчы, фінансаванне ўзнагарод ажыццяўляецца з рэзерву фонду Прэзідэнта.

На жаль, святы хутка заканчваюцца, але застаюцца ўражанні, якімі і падзяліліся са мной галоўныя дзеючыя асобы нядаўняй падзеі, а таксама расказалі пра сакрэт свайго поспеху.

**Вольга Габец, пераможца рэспубліканскага конкурсу "Лепшы па прафесіі":**

- Паколькі конкурс праходзіў даволі даўно, то першыя, самыя яркія ўражанні трошкі пабляклі, эмоцыі сціхлі, але затое цяпер яму можна даць больш аб'ектыўную ацэнку. Што датычыцца сённяшняга мерапрыемства, то мне было вельмі прыемна не толькі атрымаць прэмію, але і мець стасункі са сваімі калегамі з розных куткоў Беларусі. А каб дамагчыся поспеху, трэба заўсёды прыкладаць шмат намаганняў. Маёй перамогі не было б, каб не праца выкладчыкаў нашага каледжа. Калі казаць шчыра, то я не хацела прымаць удзел у конкурсе, бо вырашыла займацца трошкі ў іншым напрамку. Сам конкурс праходзіў у некалькі этапаў - тэставыя заданні па псіхалогіі і педагогіцы, конкурс выканаўчага майстэрства на спецыяльным музычным інструменце (у мяне было фартэпіяна), потым - правесці заняткі ў дзіцячым садку і даць урок у школе. Дарэчы, з Гродзенскага каледжа на рэспубліканскі тур былі абраны тры чалавекі, і ўсе яны сталі пераможцамі. Тое, што мы сёння атрымалі прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь - гэта выдатна. Калі цябе падтрымлівае дзяржава, то хочацца да нечага імкнуцца, чагосьці дасягаць.

**Мікалай Грыб, пераможца рэспубліканскай алімпіяды па матэматыцы:**

- Як я стаў пераможцам? Ведаеце, зусім выпадкова, і на алімпіяду трапіў неяк нечакана. Калі б некалькі гадоў таму мне хто-небудзь сказаў, што я стану пераможцам, то па меншай меры я здзівіўся б. З матэматыкай, шчыра кажучы, не вельмі сябраваў. Усё пачалося з 9-га класа, калі ўмудрыўся заняць другое месца ў раёне, але непасрэдна цікавасць да матэматыкі з'явілася ўжо ў каледжы.

А зараз мне вельмі прыемна, што для нас арганізавалі такое свята. Дзяржаўная падтрымка таленавітай моладзі неабходна, гэта стымулюе да дзейнасці, дапамагае праявіць сябе, развіваць свае здольнасці.

**Арцём Люлько, пераможца рэспубліканскай алімпіяды па выяўленчым мастацтве:**

- У нашым каледжы не было аддзялення выяўленчага мастацтва, а я займаўся ў мастацкай школе, таму ніякіх адборачных тураў у нас не было. За тыдзень да рэспубліканскай алімпіяды да мяне падышоў мой выкладчык Мікалай Паўлавіч Шэўчык і сказаў, што трэба пазаймацца. А потым зусім неспадзявана я заняў першае месца. Канешне, я разлічваў на нейкі вынік, але не на першае месца, бо падрыхтоўкі асаблівай не было.

**- З чаго вынікае, што ты вельмі таленавіты хлопец...**

- Атрымліваецца так. Калі казаць пра сённяшняе мерапрыемства, то, на мой погляд, гэта не галоўнае. Галоўнае тое, што я стаў студэнтам факультэта мастацкай графікі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.Машэрава, але прыемна адчуваць падтрымку дзяржавы, тое, што ты ёй патрэбны.

**Мікалай Мікалаевіч Паляшчук, дырэктар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа №2:**

- Такая падзея ў педагагічным каледжы адбылася ўпершыню, таму гэты факт можна лічыць гістарычным. Думаю, што такія ўрачыстасці ў педагагічных каледжах стануць традыцыяй, і прыярытэт педагагічнай адукацыі ўзнімецца.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**



НА ЗДЫМКАХ: дырэктар другога Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа М.М.Паляшчук віншуе лаўрэатаў фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь; лаўрэаты першай прэміі Мікалай Грыб, Арцём Люлько і Вольга Габец.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Юбілеі

## Ад школы павітух да медыцынскага вучылішча

***Сярод айчынных навучальных устаноў няшмат знойдзецца такіх, чыя гісторыя налічвае больш за стагоддзе. Гродзенскае дзяржаўнае медыцынскае вучылішча ў гэтым сэнсе - установа унікальная. Днямі педагогі і навучэнцы вучылішча святкавалі яго 125-гадовы юбілей.***

Пад час шанавання юбіляраў прынята ўзгадваць іх жыццёвы шлях. За 125 гадоў Гродзенскае медыцынскае вучылішча стала сведкам мноства гістарычных падзей, з ім звязалі свае лёсы тысячы людзей. Гісторыя яго існавання ўяўляе сабой цэлую эпоху ў развіцці медыцынскай адукацыі Прынёманскага краю.

А пачыналася ўсё ў 1876 годзе са школы павітух, дзе ў якасці сродкаў навучання былі толькі аптэкарскія прылады, касцяны жаночы шкілет ды калекцыя паталагаанатамічных прэпаратаў. Школа была вельмі папулярнай сярод жанчын з сялянскага асяроддзя: часам колькасць жадаючых вучыцца ў ёй перавышала колькасць вакантных месцаў. Цяпер мы называем гэта конкурсам. Для выпускніц існавалі правілы кшталту сучаснага размеркавання: тыя, хто закончыў школу, павінны былі адслужыць па назначэнні Губернскага праўлення па паўтара года за кожны год навучання. "...Верно и нелицемерно служить, и для корысти, свойства и дружбы и вражды противно должности своей и присяги не поступать" – такую клятву давалі выпускніцы школы пры атрыманні дыплома.

Далей былі пераўтварэнні, эвакуацыя ў гады Першай сусветнай вайны, скасаванне ў 1919 годзе, другое нараджэнне ў 39-м годзе і трэцяе – у 75-м...

Найноўшая гісторыя (як гэта нязвыкла гучыць у дачыненні да навучальнай установы!) вучылішча звязана з увядзеннем новых аддзяленняў і спецыяльнасцей, пашырэннем вучэбна-матэрыяльнай базы. Цяперашняе Гродзенскае медыцынскае вучылішча – гэта вучэбныя пакоі, створаныя на базе лячэбна-прафілактычных устаноў горада; гэта шматлікія кабінеты і лабараторыі; гэта вучэбная стаматалагічная паліклініка. Сёння вучылішча рыхтуе па наступных спецыяльнасцях: гігіена, санітарыя, эпідэміялогія, лабараторная дыягностыка, фельчарска-акушэрская справа, сястрынская справа, лячэбны масаж.

Аўтарытэт любой навучальнай установы вызначаюць заслугі яе выпускнікоў. За апошнія 25 гадоў кожны пяты выпускнік вучылішча атрымаў дыплом з адзнакай. З сямі тысяч сярэдніх медыцынскіх работнікаў, якія выйшлі са сцен Гродзенскага медвучылішча, многія ў далейшым сталі ўрачамі, вучонымі, арганізатармі аховы здароўя.

З 1998 года асабліва адораныя навучэнцы атрымліваюць стыпендыю імя К.С.Кемарскага – заснавальніка сярэдняй медыцынскай адукацыі ў Прынёманскім краі. І гэта – адзін з напамінаў пра тую школу павітух, што існавала ў Гродне ў канцы XIX стагоддзя. Школу, з якой сучаснае Гродзенскае медыцынскае вучылішча яднаюць слаўныя традыцыі і агульная мэта – забяспечваць насельніцтва кваліфікаванымі медыцынскімі кадрамі. Поспехаў і плёну яму ў гэтай адказнай справе!

**Іна НІКІЦЕНКА.**

Актуаліі

## А заўтра... мульверсітэт

***Нядаўна ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце адбылося юбілейнае 50-е пасяджэнне семінара "Матэматычная адукацыя". З дакладам, прысвечаным праблемам прафесійна-педагагічнай падрыхтоўкі студэнтаў, выступіў кіраўнік семінара, загадчык кафедры алгебры, геаметрыі і методыкі выкладання матэматыкі Юрый Пракоф'евіч Залатухін.***

Вучоны адзначыў, што існуючая ў некаторых універсітэтах практыка падрыхтоўкі настаўнікаў па планах і праграмах навучання навуковым прафесіям сябе не апраўдвае. Мэты, змест і метады падрыхтоўкі навуковых супрацоўнікаў і настаўнікаў-прадметнікаў настолькі розныя, што сумяшчэнне іх па такім прынцыпе не дазваляе задаволіць на выхадзе кваліфікацыйныя патрабаванні ні той, ні другой прафесіі.

У выніку канфрантацыі паміж гуманітарным, фундаментальна-навуковым, прыкладным, псіхолага-педагагічным і іншымі напрамкамі універсітэцкай праграмы з вучэбных планаў выключаюцца прадметныя, метадалагічныя, метадычныя і тэхналагічныя дысцыпліны, максімальна ўразаюцца тэрміны педагагічнай практыкі. Улічваючы адрозненні ва ўстаноўках, змесце і метадалогіі школьных і універсітэцкіх дысцыплін, а таксама нізкі сярэдні ўзровень прадметнай падрыхтоўкі абітурыентаў, няцяжка зразумець, якое негатыўнае ўздзеянне на фарміраванне настаўніцкіх кадраў аказвае падобная практыка.

Усведамленне незапатрабаванасці спецыяльных ведаў прыводзіць да таго, што ў студэнтаў, якія мяркуюць працаваць настаўнікамі, страчваецца цікавасць да вучобы, зніжаецца вучэбная актыўнасць. Неабходна прызнаць, што вялікая частка выпускнікоў навуковых спецыяльнасцей універсітэтаў адпраўляецца на працу ў школы не ўзброенай у дастатковай ступені глыбокімі прафесійна-педагагічнымі ведамі, уменнямі і навыкамі.

На думку Ю.П.Залатухіна, само жыццё патрабуе, каб універсітэцкая адукацыйная праграма ў вялікай ступені ўлічвала патрэбы студэнтаў. У прыватнасці, павінна быць дыферэнцыявана навучанне будучых вучоных і настаўнікаў. Сучасная сацыяльная практыка прывяла ўжо да таго, што ва універсітэце з'явіліся факультэты, выразна зарыентаваныя на масавыя прафесіі (накшталт педагагічнага), створаны асновы для фарміравання політэхнічнага напрамку падрыхтоўкі (у рамках фізіка-тэхнічнага факультэта), узніклі падраздзяленні, якія адпавядаюць патрабаванням рыначнай эканомікі (напрыклад, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі).

Гэта, па сутнасці, азначае, што мы маем справу са стыхійным пераходам ад схемы так званага класічнага (акадэмічнага, даследчага) універсітэта да схемы сучаснага рэгіянальнага мульверсітэта.

Працэсы змянення структуры і зместу універсітэцкай праграмы, на думку кіраўніка семінара, з'яўляюцца сацыяльна абумоўленымі і звязаны з тэндэнцыяй узмацнення прыкладной накіраванасці вышэйшай адукацыі ў развітых краінах. У рамках рэгіянальнага мульверсітэта падраздзяленні, якія забяспечваюць акадэмічную і прафесійную падрыхтоўку, маглі б існаваць аўтаномна, узбагачаючы адно аднаго і выконваючы свае задачы з улікам новых магчымасцей. І заканамерным крокам у гэтым напрамку можа стаць стварэнне ва універсітэце педагагічнага дэпартамента, які арганізуе і каардынуе навучанне педагагічным прафесіям па ўсім спектры спецыяльнасцей.

**Міра КАСПЕРКА,**
**сакратар семінара "Матэматычная адукацыя"**

Перыёдыка

## Скажы "Крыніцы" – "так!"

Часопіс "Крыніца" перажыў узлёты і катаклізмы, але як сімвал жыцця – *крыніца* – ён знаходзіў шлях да чытача. Часопіс з'яўляецца літаратурна-культуралагічным выданнем на беларускай мове і займае адметнае месца ў нацыянальнай культурнай прасторы. Мы імкнемся быць у поўным сэнсе гэтых слоў – *сучасным літаратурным часопісам*. Але гэта не азначае, што па-за ўвагаю застаецца гісторыя літаратуры. Наадварот, з нумара ў нумар з'яўляюцца публікацыі, прысвечаныя выдатным, а часам і забытым пісьменнікам. Важна, што ў дзень мінулы мы глядзім з дня сённяшняга, а таму і аналіз творчасці, увага аўтараў крытычных артыкулаў ці літаратуразнаўчых эсэ грунтуюцца на сучасных падыходах і патрабаваннях да мастацкага твора. Бадай што ўсе літаратурныя постаці, на якіх засяроджваецца "Крыніца", вывучаюцца ў школе, гуманітарных ВНУ. На сустрэчах настаўнікі, студэнты, бібліятэкары скардзяцца, што не хапае ў апошнія гады матэрыялаў па беларускай літаратуры, і невядома, што адбываецца зараз у гэтай галіне нацыянальнай культуры (ды і як ведаць, калі пры такіх тыражах выданняў сучасная арыгінальная літаратура можа ператварыцца ў літаратуру для літаратараў?)... І ў той жа час па-за ўвагай школы (вельмі сумна, што вышэйшай – таксама) застаецца незапатрабаваным у поўнай меры, як ён таго заслугоўвае, і наш часопіс. А тым часам у кожным нумары змяшчаюцца цікавыя, адметныя для літаратурнага працэсу творы беларускіх пісьменнікаў, дэбютуюць у літаратурнае жыццё новыя аўтары. Так, з дэбютаў "Крыніцы" за гэты год можна назваць вершаваныя падборкі Алены Анёлы і Веры Бурлак, аповесць Алены Брава. Змешчаны строга адабраныя для публікацыі творы паэтаў Аркадзя Моркаўкі і Валеры Маракова, якія назаўсёды ўвайшлі ў гісторыю літаратуры. З сучасных літаратараў – творы Ніла Гілевіча, Алеся Жука, Леаніда Дранько-Майсюка, Алега Мінкіна, Анатоля Сыса. Зараз падрыхтаваны да друку творы Аляксея Пысіна, Уладзіміра Арлова, Адама Глобуса, Міколы Лупсякова (дарэчы, у рэдакцыйным партфелі знаходзіцца яшчэ нідзе не публікаванае апавяданне гэтага цікавага і несправядліва забытага пісьменніка) ... Ідзе праца над творамі Францішкі Уршулі Радзівіл, Юльяна Нямцэвіча, Кузьмы Чорнага, Яўгеніі Янішчыц і інш.

У кожным нумары "Крыніцы" змяшчаюцца творы замежных пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову. Мы імкнемся данасіць да чытача самае цікавае і адметнае з іншых літаратур свету, змяшчаем крытычныя артыкулы, падаём постаці замежных пісьменнікаў. Для большасці чытачоў многія імёны і творы сучаснай замежнай літаратуры, якія змяшчае "Крыніца", невядомыя – па простай прычыне: недаступныя, бо дзеля іх прачытання трэба ехаць за мяжу, набываць кнігі, часопісы на англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай і іншых мовах. Сёлета "Крыніца" надрукавала постаці і творы Умбэрта Эка, Гіёма Апалінэра, Олдаса Хакслі, Артэгі-і-Гасэта, Вірджыніі Вульф, Ірвіна Шоў, Габрыэля Гарсія Маркеса, Джона Фаўлза (пісьменнік адгукнуўся на гэтую публікацыю ў "Крыніцы" лістом, мы маем намер яго змясціць), Джэймса Джойса, Оскара Уайльда, прысвяціла публікацыю амерыканскай гатычнай навеле... У наступным годзе з'явяцца постаці Гюнтара Граса і нядаўніх нобелеўскіх лаўрэатаў, а таксама шэраг цікавых імёнаў і твораў сучаснай замежнай літаратуры. З бестселераў падрыхтаваны да друку раман Паула Куэльё "Алхімік" у перакладзе Валеры Буйвала.

Гэта ўсё планы, блізкія і – рэальныя, калі вы, шаноўныя чытачы, скажаце: так, нам гэта цікава і неабходна! І сваё "так!" пацвердзіце падпіскай на наш часопіс. Кошт індывідуальнай падпіскі на паўгоддзе складае 6000 руб., ведамаснай – 9000 руб. Асобна звяртаюся да кіраўнікоў бібліятэк, школ, устаноў сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі. Вельмі паважаныя кіраўнікі, мы ўпэўнены: вы мудрыя людзі, і таму сярод прыярытэтаў вашай дзейнасці – нязменна папаўняць бібліятэчныя фонды падпіснымі беларускімі літаратурнымі выданнямі.

Дарагія чытачы, мы спадзяёмся ў наступным годзе – у больш аддаленай будучыні таксама – быць разам з вамі, працаваць дзеля вас і Бацькаўшчыны.

**Ала КАНАПЕЛЬКА,**
**галоўны рэдактар часопіса "Крыніца".**

Званок з рэдакцыі

## Дзед Мароз, падары!

***Трэцяя школа ў гарадскім пасёлку Узда, што на Міншчыне, будуецца ўжо даволі даўно - 10 гадоў. Але ў апошні год праца на будоўлі закіпела, і новаспечаны дырэктар Зінаіда Рыгораўна Жукоўская цешыла сябе думкай, што новы, 2002 год яна ўрэшце сустрэне ва ўтульным кабінеце, а не на будаўнічай пляцоўцы.***

На жаль, па словах Зінаіды Рыгораўны, у апошнія паўтара месяцы на будоўлі назіраецца зацішша. Працуе толькі 7–10 чалавек. Будынак не ацяпляецца. Генпадрадчык ("Мінскаблсельбуд") тлумачыць сітуацыю адсутнасцю сродкаў. Таму зразумела, што весці аддзелачныя работы пры мінусавой тэмпературы немагчыма. Ды і няма каму.

Цікава, што тое абсталяванне, заяўка на якое рабілася ў 1991 годзе, ужо даўно састарэла. І трэба заказваць і вырабляць новае.

Разлічана новая школа на 620 месцаў, а займацца ў ёй будуць, па словах Зінаіды Рыгораўны, больш за 750 вучняў. Дзве гарадскія школы працуюць у дзве змены, адзін час была нават трэцяя змена.

Зінаіда Рыгораўна – часты госць у многіх высокіх інстанцыях. Аб праблемах новабудоўлі ведаюць у аблана, аблвыканкаме.

Нельга сказаць, што адносяцца да гэтых праблем абыякава, але тым не менш справа рухаецца вельмі марудна. У той жа час многія дзеці і бацькі з гарадскога пасёлка Узда вельмі чакаюць адкрыцця новай школы.

Апошні час у высокіх урадавых колах не-не ды і прагучыць думка, што хутка і старыя школы будуць пуставаць. Але гэтае меркаванне не мае дачынення да Узды, бо, па словах загадчыка райана Пятра Уладзіміравіча Матыля, у апошнія гады тут назіраецца прырост нараджальнасці. І недахопу школьнікаў не будзе.

Сёння, калі напярэдадні Новага года дзеці просяць у Дзеда Мароза падарункі, Зінаіда Рыгораўна ў думках таксама звяртаецца да яго і просіць, каб 2002 год быў годам наваселля для школы.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Весткі

## Урачыстасць з нагоды юбілею

***Нядаўна таварыству польскай культуры на Лідчыне споўнілася дзесяць гадоў.***

Яго лідэры, актыўна развіваючы лепшыя традыцыі свайго народа, цесна супрацоўнічаюць з нацыянальнымі суполкамі літоўцаў, татараў, яўрэяў. Асабліва цесныя адносіны завязаліся з "Таварыствам беларускай мовы".

За гэты час зроблена шмат добрых спраў: створаны і дасягнуў вышынь майстэрства вакальны гурт "Крэсавяцы", наладжаны выезд дзяцей падчас школьных канікулаў на аздараўленне ў Польшчу, арганізоўваюцца і праводзяцца навукова-практычныя канферэнцыі і пасяджэнні.

Вялікі ўклад у работу таварыства ўносіць Аляксандр Калышка, які ўсе гэтыя гады з'яўляецца ягоным старшынёй.

Святочная ўрачыстасць з нагоды юбілею праходзіла ў музычным цэнтры "Панарама", куды сабралася шмат гасцей.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

## "Маладзічок"

***Такую назву мае літаратурнае аб'яднанне, якое дзейнічае на базе Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі Гомеля.***

На пасяджэнні аб'яднання наведваюцца многія школьнікі, горача ўлюбёныя ў роднае слова, у жыццё і прыроду.

На днях у літаб'яднанні адбылася прэзентацыя першага самадрукаванага выдання, якое таксама назвалі "Маладзічок". Творы пачаткоўцаў парадавалі чытачоў юным імпэтам, неардынарнасцю думак. Няхай не кожны стане ў будучым прафесійным літаратарам, але святло, атрыманае ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы, будзе заўсёды асвечваць іх жыццёвую дарогу.

Загадчыца бібліятэкі Ала Сяргееўна Марозава выказала надзею, што святло "Маладзічка" ніколі не патухне, бо юныя творцы знойдуцца ў кожнай школе, кожным доме. Галоўнае, каб дзеці і падлеткі сталі больш шчырымі, спагадлівымі, не згубілі на сцяжынах нашага нялёгкага жыцця дабрыню да людзей, усяго жывога на зямлі.

**Ганна АТРОШЧАНКА.**
Гомель.

*Наступны нумар "Настаўніцкай газеты" выйдзе ў свет 27 снежня 2001 года.*

